

# Магілёўскі Час

*Час склікаці ўжо грамаду*
*На вялікую нараду,*
*На вялікі сход!*
*Хай рассудзіць, хай разважа,*
*Слова цвёрдае хай скажа,*
*Скажа сам народ!*
*Я. Купала*

№15 (38) 15 ліпеня 2008 года




## 90% беларусаў могуць пазбавіцца мабільнай сувязі

Стар. 3



## Дзіўнае слова - экслібрыс

Стар. 4

# Рэха крывавага выбуху

## Міліцыя шукае віноўных сярод невіноўных

Ганна Чарнецкая

**У адной з палат шпіталю апынулася 28-гадовая Ліля Мельнік, яна была каля самага цэнтру выбуху. У яе моцна пацярпелі ногі, яна не магла нават сядзець. Кажа, што выбухнула, калі яна сядзела на пледзе і размаўляла праз тэлефон.**

"Нават ня думала, што ў нас у Беларусі нешта такое могуць зрабіць! Ніколі не чакала. Яшчэ ў Расеі магло такое здарыцца, але што ў нас у Беларусі... Я сапраўды ў шоку!", - зазначае Ліля Мельнік.

"Мы каля елачак сядзелі. Якраз салют прайшоў і хвілін трыццаць мінула. Аказваецца, паставілі пад елкай пакет 3-пад соку, і ён рвануў. І бачу - кроў, ногі ўсе ў крыві. Потым падскочылі людзі, міліцыя, мяне на рукі і данеслі да "хуткай дапамогі". У мяне ўсе шлёпанцы былі наскрозь. І, атрымоўваецца, з калена даставалі гайкі. І з нагі даставалі гайкі".

### Лукашэнка не пабаяўся паўторнага выбуху

Прэзідэнт краіны не пакінуў месца выбуху. Больш за тое - ён падаўся ў самы эпіцэнтр, каб даць асабістую каманду аб хутчайшым расследванні справы.

Лукашэнка заявіў, што не пакінуў канцэрт пасля выбуху, бо не хацеў, каб пачалася паніка: "Калі б я зрабіў так, як мне раілі, гэта значыць пакінуў месца здарэння, то арганізатары гэтай гнуснай акцыі дабіліся б сваёй мэты. Яны ж разлічвалі менавіта на тое, каб пасеяць паніку".

На пытанне "Ці можа ахова дазволіць кіраўніку дзяржавы заставацца ў небяспечным месцы пасля выбуху альбо страляніны, асабліва калі няма гарантыі, што яны не паўторацца?" адказаў першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які ў 1991-1994 годзе меў дзяржаўную ахову.

Шушкевіч: "У такой сітуацыі ахова, што б там ні рабіла гэтая "першая асоба", хапае яе і выцягвае з таго месца, дзе гэта адбылося. І што б ні рабіла гэтая асоба, паўтараю, яе з гэтага месца, дзе такое здарэнне мела месца (таму што там могуць быць паўторы) - выцягваюць. Гэта - адназначна".

### Прэзідэнт назваў вінаватых

На нарадзе па пытаннях расследавання выбуху ў Менску Лукашэнка прамым тэкстам заявіў, што ў інцыдэнце, у першую чаргу, вінаваты Шейман. "Не думаю, што вы, Віктар Уладзіміравіч, павінны застацца ў гэтай пасадзе пасля інцыдэнту. Вы вінаватыя, першым чынам, - заявіў Лукашэнка. - Вы не адзін год, а дзесяць гадоў арганізоўвалі падобныя мерапрыемствы. Вы і аддзел адміністрацыі - ён адказвае за палітычны бок, а вы за бяспеку - ні чорта не зрабілі, і пішыце мне рапарты аб тым, што там здарылася. Я больш вас ведаю, што там адбылося, а дзяржаўнага сакратара няма на мерапрыемстве і ў полі зроку не відаць".

### Падстава для расправы над апанентамі?..

Пасля выбуху самаробнай бомбы было затрымана каля 14 прадстаўнікоў апазіцыі.

За час знаходжання актывістаў пад вартай, дапыталі кожнага з іх усяго адзін раз. Абвінавачванні ім прад'яўленыя не былі.

Перад затрыманнем у кватэрах апазіцыянераў праводзіліся перартусы. Падставамі для арыштаў стала наяўнасць у дамах цвікоў і гумовых пальчатак.

Па сённяшні дзень многія палітычныя актывісты падвяргаюцца арыштам, допытам і вобыскам.

Дарэчы, напярэдадні арыштаў, адразу пасля выбуху, лідэры апазіцыі запатрабавалі ад уладаў не выкарыстоўваць выбух для палітычнай расправы над апанентамі рэжыму.

(Працяг на стар. 2)







Специальный "табачный паспорт" нужен теперь в Японии для покупки сигарет. Для получения карточек с микрочипом, которые выдаются бесплатно, необходимо заполнить специальный бланк и предоставить копии документа, удостоверяющего личность. Таким образом, власти намерены перекрыть доступ к сигаретам несовершеннолетним гражданам.

В Брюсселе 9 июля послы 26 стран - членов НАТО подписали протоколы о присоединении Албании и Хорватии к альянсу, сообщает DPA.

В испанском городе Сарагоса установят самую большую в мире солнечную батарею, сообщает The New York Times. Мощность батареи, сборку которой завершат осенью 2008 года, составит 12 мегаватт. Батарея расположится на участке крыши площадью более миллиона квадратных метров.



По данным международной неправительственной организации «Транспеseparenci Интернешнл» Беларусь входит в число 40 самых коррумпированных стран мира, среди которых находятся: Мьянма, Сомали, Ирак, Гаити и Узбекистан. Практически отсутствует взяточничество в Дании, Финляндии, Голландии, Швейцарии и Канаде.

В Беларуси в ближайшее время займутся грибоводством на промышленной основе. Директор института овощеводства Национальной академии наук страны Александр Аутко сообщил, что при выращивании грибов будет использоваться опыт китайских фермеров, которые выращивают и продают около 20 видов грибов.

Опрос службы Gallup, проведенный в Беларуси показывает, что каждый пятый белорус готов эмигрировать.

Больше всего заинтересованы перебраться за границу молодые люди, которые стремятся повысить свой уровень жизни.





Могилевский горисполком заявил, что вскоре пятьсот строителей из Китая начнут возводить в Могилеве ежегодно 100 тысяч квадратных метров жилья. Это предусматривает подписанный протокол о намерениях сотрудничества с китайской строительной компанией "Юйхуа".

Филиал ОАО «Белорусская универсальная товарная биржа» открылась 7 июля в Могилеве. Могилевская биржа будет функционировать в одномоментном режиме с другими торговыми площадками Беларуси.

По предложению могилевской еврейской общины, недалеко от моста по ул. Лазаренко, будет установлен памятник жертвам могилевского гетто, погибшим в 1941-1942 гг. Камень-валун с изображением многочисленных отпечатков ладоней детей, женщин, мужчин и надписью «В память о евреях Могилева - жертвах нацизма» установят на бетонный постамент.

# Рэха крывавага выбуху

**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

Партыя БНФ выступіла з наступнай заявай: "Мы рашуча асуджаем злачынства, скіраванае супраць мірных бесклапотных людзей. Ня ведаем, хто яго зрабіў і з якімі мэтамі, але перакананыя: толькі нехта бясконца далёкі ад прынцыпаў чалавечнасці, хрысціянскіх каштоўнасцяў, любові да беларускага народу і сваёй краіны мог запляміць сваёй краіны мог запляманець і ўчыніць такое дзікунства.

Мы настойліва раім уладзе надалей лепей дбаць пра бяспеку людзей, якіх сама ж яна і збірае. І папярэджваем, што з боку ўлады было б вялікай памылкай паспрабаваць скарыстаць гэтую вартую безумоўнага асуджэння падзею ў мэтах далейшага абмежаваньня свабоды й дэмакратыі ды барацьбы з палітычнымі апанентамі."

Генерал міліцыі ў адстаўцы Мечыслаў Грыб перакананы, што ўлады сапраўды могуць выкарыстаць гэты выпадак як нагоду для ціску на апазіцыю: "Я ў гэтым не сумняваюся. Каго яны абвінавацяць, цяжка сказаць, але будуць шукаць сярод апазіцыі. Мяркую, што праз непрацяглы час гэтую справу будуць кваліфікаваць як тэракт, а калі раскрыюць і знойдуць нейкае дачыненне да апазіцыі, то ўжо ўсім ратунку не будзе".

Мечыслаў Грыб перакананы, што цяперашняе злачынства мае карані ў аналагічным віцебскім выпадку: "Калі адно аналагічнае злачынства застаецца нераскрытым, тады можна чакаць другога. Найбольш небяспечна, калі за гэтыя злачынствы затрымліваюць і прыцягваюць да адказнасці невінаватых людзей. Гэта развязвае рукі сапраўдным злачынцам, якія лічаць сябе беспакаранымі".

### Падрыўніка хочуць вылічыць па мабільніку

Міліцыя запатрабавала ад аператараў мабільнай сувязі МТС і "Вэлком" звесткі аб усіх абанентах, што прысутнічалі на канцэрце 3 ліпеня, дзе адбыўся выбух.

Як паведамляе блогер reaktivny_puz, па атрыманых спісах людзей выклікаюць у РАУС па месцы жыхарства, дапытваюць і бяруць адбіткі пальцаў. У анкеце, якую патрабуюць запоўніць, ёсць пытанні аб службе ў войску, аб знаходжанні ў незарэгістраваных арганізацыях, аб знаёмстве з "чорнымі археолагамі" і г.д.

### Прапаноўваецца здаваць знаёмых

Супрацоўнікі міліцыі ў сувязі з выбухам 4 ліпеня здзяйсняюць масавы абыход кватэр жыхароў Мінска. Пры гэтым мінчукоў абавязваюць адказваць на пытанні адмысловай анкеты.

Кожны апытваемы міліцыяй, акрамя свайго імя і прозвішча, павінен сказаць, якую вучэбную ўстанову, калі і па якой спецыяльнасці скончыў, паведаміць аб месцы працы і сваёй пасадзе, месцы прапіскі і месцы жыхарства, хатні, працоўны і мабільны тэлефон.

Далей міліцыянераў цікавіць, ці ёсць у апытаных знаёмыя:

- якія цікавяцца, выпрабляюць ці захоўваюць выбуховыя рэчывы, піратэхнічныя сумесі, самаробныя выбухныя прылады (узрыўпакеты, петарды);
- якія займаюцца незаконнымі раскопкамі ў месцах баявых дзеянняў часоў вайны;
- якія набываюць ў вялікіх колькасцях перакіс вадароду;
- якія выказваюць намер здзейсніць выбух;
- якія валодаюць адмысловымі навыкамі ў вобласці хіміі, схільных да здзяйснення правапарушэнняў з выкарыстаннем піратэхнічных прылад;
- якія былі на канцэрце і сталі сведкамі злачынства.

Характэрна, што ў канцы міліцыянер, які запаўняе анкету з вашых слоў, павінен адказаць, ці ўпэўнены ён у вашай шчырасці. Варыянты адказаў: "Так" і "Не".

**На сайце тэлеканала АНТ праводзілася інтэрнэт-галасаванне па пытанню: "Хто, на вашу думку, стаіць за выбухам на свяце 3 ліпеня?"***




### Нашумелыя выбухі ў Беларусі

- У 1997 г. у выніку выбуху бомбы, закладзенай у смеццезборнік, у сваім доме быў забіты Яўген Мікалуцкі, кіраўнік кантрольна-рэвізійнай управы па Магілёўскай вобласці. За гэта было асуджана 2 чалавекі;
- У 1997 г. спрацавала выбуховае прыстасаванне, закладзенае пад будынак Савецкага суду Мінска. У гэтым інцыдэнце ніхто не пацярпеў, і ніхто не быў за яго пакараны.
- У 2004 г. у адной са школаў Пухавіцкага раёну вучань паспрабаваў разабраць выбуховае прыстасаванне. Пацярпелі 9 дзяцей.
- У 2005 г. у Віцебску 14 верасня выбуховае прыстасаванне спрацавала на скрыжаванні вуліцы Леніна і праспекта Фрунзэ. Пацярпелі двое мінакоў: жанчына і 16-гадовы школьнік. Вінаватыя не знойдзеныя. Праз 2 тыдні 22 верасня ў Віцебску адбыўся другі выбух. Было паранена каля 40 чалавек. Міліцыя ў пошуках вінаватых рабілаператрусы ў кватэрах сябраў апазіцыі. Вінаватыя не знойдзеныя.

# Ці парушылі закон магілёўскія ўлады?

***Магілёўскія праваабаронцы падаюць у суд на дзеянні чыноўнікаў па фарміраванні выбарчых камісіяў.***

**Алеся Казакова**

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 344 ад 24 чэрвеня 2008 г. былі прызначаныя выбары дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 4-га склікання. Паводле дадзенага Указу выбары павінны адбыцца 28 верасня 2008 года. На сёння ў Беларусі ўжо завяршылася фармаванне акруговых выбарчых камісій па правядзенні выбараў. У Магілёве, як і ў астатніх гарадах яно прайшло 14 ліпеня.

Магілёўскі праваабарончы цэнтр мае намер абскардзіць зацверджаны аблвыканкамам і прэзідыумам абласнога савету дэпутатаў склад трынаццаці акруговых выбарчых камісіяў Магілёўшчыны. Праваабаронцы вінаваціць чыноўнікаў і дэпутатаў у парушэнні працэдуры фармавання выбаркамаў. Адпаведная скарга накіраваная ў Генеральную пракуратуру, урад, Палату прадстаўнікоў ды Цэнтравыбаркам Беларусі.

14 ліпеня на сумесным паседжанні аблвыканкама і прэзыдыума абласнога савету, на якім зацвярджаўся склад акруговых выбарчых камісіяў, прысутнічаў магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель, а таксама сябра дэмакратычнай арганізацыі Рыгор Кастусёў.

Прадстаўнікі дэмакратычных сілаў, якія прысутнічалі на паседжанні маюць шэраг заўвагаў і прэтэнзіяў да таго як праводзілася працэдура зацвярджэння спісаў членаў акруговых камісіяў. Адразу пасля паседжання Аб'яднаныя Дэмакратычныя Сілы зрабілі наступную заяву:




"Мы, прадстаўнікі Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл, заяўляем аб грубым парушэнні Прэзідыумам аблсавету і аблвыканкамам працэдуры правядзення паседжання і фарміравання акруговых камісій. Не быў агучаны колькасны склад прысутных на паседжанні прадстаўнікоў Прэзідыума аблсавету і аблвыканкаму, не былі абраныя старшыня і сакратар паседжання, адсутнічала персанальнае абмеркаванне прэтэндэнтаў і асобнае галасаванне па кожнай кандыдатуры прадстаўнікоў у склад акруговых камісій. У сувязі з гэтым, рашэнне сумеснага паседжання Прэзідыума аблсавету і аблвыканкаму па фарміраванні акруговых камісіяў, у бліжэйшы час будзе абскарджана ў пракуратуры Магілёўскай вобласці і Цэнтральнай выбарчай камісіі."

# 90% беларусаў могуць пазбавіцца мабільнай сувязі

***З падачы Генпракуратуры "шэрыя" мабільныя тэлефоны магчыма не будуць працаваць на тэрыторыі Беларусі.***

**Зміцер Салаўёў**

## Генпракуратура спаслалася на рост злачыннасці

З 1 ліпеня па настаянню Генпракуратуры мабільныя аператары ўнеслі ў абаненцкія дамовы пункты аб адключэнні кліентаў, якія карыстаюцца мабільнымі тэлефонамі з дубляванымі індыфікацыйнымі нумарамі. Па ацэнкам Дзяржаўнага мытнага камітэту такіх мабільнікаў у краіне каля 90%.

Генпракуратура звярнулася да сотавых аператараў Беларусі з прапановай адмовіць у абслугоўванні уладальнікам мабільных тэлефонаў з падвоеным індэфікацыйным нумарам (IMEI).

"Міністэрству сувязі і інфарматызацыі неабходна патрабаваць ад аператараў сотавай сувязі стварэння сістэмы пошуку індыфікацыйных нумароў "шэрых" тэлефонаў і аўтаматычнага блакавання іхнай працы", - заявіў генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Рыгор Васілевіч.

На прэсавай канферэнцыі Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь Васілевіч зрабіў некалькі патужных заяваў. Гэтак, кіраўнік пракуратуры прапанаваў мабільным аператарам адмовіць у абслугоўванні уладальнікам тэлефонаў са змененым IMEI. "Мы прапануем з 1 ліпеня ў дамовы, якія заключаюць аператары сотавай сувязі з кліентамі, увесці норму аб тым, што, калі тэлефон мае перабіты нумар, адмаўляць яго уладальніку ў абслугоўванні і заблакаваць сувязь. Мы спрабуем зрабіць безсэнсоўным такое злачынства як крадзеж тэлефонаў, і невыгадным "перабіванне" індыфікацыйнага нумару", - сказаў пракурор.

На думку генпракурора, "толькі ў аднаго з аператараў пад адным індыфікацыйным нумарам выкарыстоўваецца больш за 95 тысячаў мабільных тэлефонаў. У той жа час на абслугоўванні дадзенага апаратара знаходзіцца каля 270 тысячаў тэлефонаў са зменёнымі індыфікацыйнымі нумарамі".

Акрамя тэлефонаў з "перапрашытымі" індыфікацыйнымі нумарамі пад пагрозу блакавання могуць трапіць і мытныя - "шэрыя" мабільнікі. "Значная колькасць тэлефонных апаратаў увезена ў краіну незаконна, без выплаты мытных пошлінаў", - кажа генпракурор. У свой час беларускі дзяржаўны мытны камітэт паведамляў, што колькасць такіх апаратаў складае каля 90% ад прадаваемых у Беларусі. Але галоўны пракурор забывае, што так званыя "шэрыя" мабільнікі абкладаюцца 15% мытнай пошлінай, што зразумела не робіць іх больш прывабнымі для пакупнікоў.

Акрамя таго, пракуратура адзначае "шматлікія факты рэгістрацыі аператарамі мабільнай сувязі на адну асобу некалькі дзясяткаў SIM-картаў, якія ў далейшым перадаваліся асобам, якія здзейснілі злачынства". На думку пракуратуры, гэта "не толькі стварае перадумовы для крадзяжа мабільных тэлефонаў, якіх за 5 месяцаў - больш за 6 тысячаў, але і цалкам негатыўна адбіваецца на эфектыўнасці барацьбы са злачыннасцю".



## Ствараецца адзіны рэгістр

У генпракуратуры паведамілі, што зараз па лініі Мінгандлю ствараецца адзіны рэгістр IMEI-нумароў. У той момант, калі ён будзе канчаткова створаны і зацверджаны, сітуацыя на рынку можа змяніцца карэнным вобразам. Тэлефоны, індыфікацыйных нумароў якіх не будзе ў базе, абслугоўвацца проста перастануць.

Таксама генеральная пракуратура прапануе ўвесці адказнасць за незаконнае перапраграмаванне мабільных тэлефонаў, разглядае яго як саўдзельніцтва ў перапродажу скрадзенага.

Як паведамляецца ў прэс-рэлізе пракуратуры, асобы, якія набылі мабільны тэлефон на «чорным рынку», «могуць апынуцца ў становішчы, калі ім адмовяць у прыняцці на абслугоўванне апаратаў, набытых не ў гандлёвай сетцы». Такім чынам мяркуецца перакрыць рынкі збыту «чорных тэлефонаў». Як гэтая схема будзе працаваць, пакуль невядома.

Так што, ці змоўкнуць мабільнікі нашых грамадзян - пакажа час. А пакуль што ў дамовах мабільных аператараў з'явіўся радок такога кшталту: «кампанія мае права адключыць кліента ад сеткі GSM ў выпадку выкарыстання ім мабільнага тэлефону з незаконна зменёным індыфікацыйным нумарам (IMEI)".

# Белсат TV - тваё права выбару!

***18 ліпеня а 18-й гадзіне мінскага часу адбудзецца афіцыйны старт трансляцыі "Белсату" на спадарожніку "Сірыус-4".***

**Сяржук Хамут**

10 снежня 2007 года пачаў працаваць Белсат - першы сапраўды незалежны беларускамоўны тэлевізійны канал. Кіраўніцтва каналу ставіць мэтай паспрабаваць стварыць для беларусаў такое тэлебачанне, якога яны практычна не маюць у сябе на радзіме, нацыянальнае тэлебачанне, якое павінна паказваць тое, што тут мы не маем магчымасці ўбачыць. Пачалося ўсё з трохгадзіннага тэставага вяшчання праз спадарожнік "Астра". І вось ужо праз паўгода пашыраючы трансляванне Белсат можна будзе ўбачыць і праз спадарожнік «Сірыус».

У звязку з пачаткам працы на «Сірыусе» з 18 ліпеня адбудзецца змена ў праграме «Белсату». Замест сённяшняга 3-гадзіннага блоку, які паўтараецца адзін раз, перадачы «Белсату» будуць выходзіць у адным 6-гадзінным блоку з 18:00 да 24:10. Такая формула дазволіць дапасаваць перадачы «Белсату» да патрабаванняў беларускіх гледачоў і ўзбагаціць праграму каналу.

Штодня з панядзелка да суботы пасля галоўнага выдання навінаў (перадача «Аб'ектыў»), якія з 1 ліпеня выходзяць са студыі ў наўпроставым эфіры, прыкладна а 21:10 у эфіры будзе адна з нашых найлепшых публіцыстычных праграмаў (сярод іх - «Рэпартаж з Беларусі», «Госць «Белсату», «Кішэня», «Рэпартэр», «Yo-Life!», «Маю права», «Хто ёсць кім?»), або дакументальны фільм на гістарычную тэматыку ці з расповедам пра тыя бакі жыцця Беларусі, пра якія немагчыма даведацца з іншых тэлеканалаў.

Асаблівую ўвагу заслугоўваюць дзве публіцыстычныя перадачы. У суботу - «Тыдзень з радыё «Свабода», падрыхтаваны журналістамі беларускай службы радыё «Свабода». Прэм'ера перадачы плануецца напрыканцы жніўня. А ў нядзелю традыцыйна - тэмы, якія датычаць большасці з нас, у ток-шоу «Форум» з Эдуардам Мельнікавым.

Адначасова са зменаю ў праграме, у эфір пачнуць выходзіць дзве перадачы тэлеканалу «Нямецкая хваля» (Deutsche Welle): «Еўропа сёння» - тэлечасопіс з актуальнымі рэпартажамі з усёй Еўропы на палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя тэмы, а таксама «Еўрамакс» - перадача пра еўрапейскі стыль жыцця, культуру і адпачынак.



У пятніцу, суботу і нядзелю на «Белсаце» – найлепшыя мастацкія фільмы і забаўляльныя перадачы, сярод якіх - «Жаўтуха» і «Кухня».

Паводле сацыялагічных даследаванняў, праведзеных прыканцы 2006 г., больш за палову спадарожнікавых антэнаў у Беларусі скіраваныя на «Сірыус». Трансляванне на найбольш папулярны ў Беларусі спадарожнік дае магчымасць доступу да праграмаў «Белсату» максімальнай колькасці беларусаў. Цяпер права выбару мае кожны тэлеглядач.

**Мапа пакрыцця Еўропы сігналам са спадарожніка Сірыус 4**



